*13. А дзеля гэтага, хто гаворыць незнаёмаю моваю, няхай моліцца, каб умеў вытлумачыць.*

*14. Бо, калі я малюся ў незнаёмай мове, дык дух мой моліцца, але розум мой застаецца бясплодным.*

*15. Дык што-ж? Буду маліцца духам, буду маліцца розумам; буду пяяць духам, буду пяяць і розумам.*

*16. Бо, калі ты будзеш благаславіць духам, дык як той, хто стаіць на месцы простага чалавека, можа сказаць "Амін" на тваё дзякаваньне? Бо ён не разумее, што ты гаворыш.*

*17. Ты хораша дзякуеш, але Другі не навучаецца.*

*18. Дзякую майму Богу, што болей за ўсіх вас гавару мовамі;*

*19. Але ў царкве хачу лепей сказаць пяць словаў маім розумам, каб і другіх навучыць, чым мірыяды слоў у незнаёмай мове.*

Першае Пасланьне Паўла да Карыньцянаў, 14: 13-19

## АД ВЫДАВЕЦТВА

Нарыс „Праваслаўная Царква ў Беластоцкім Краі і беларуская мова ў ёй” напісаў жыхар Беласточчыны, не падаўшы свайго прозьвішча. На Захад твор трапіў у выглядзе брашуры, выданае ў Польшчы ў 1981 годзе ў колькасьці 100 экзэмпляраў (лацінкаю). У канцы выданьня, выпушчанага „на правох рукапісу”, пададзеная „заканадаўчая падстава” публікацыі: Ustawa z dnia 31 lipca 1981 г. — o kontroli publikacji i widowisk, art. 4.1.22 (Dz.U. nr 20); Uchwała Rady Państwa z dnia 17 września 1981 г. w sprawie regulaminu sprawowania kontroli publikacji i widowisk, 12.1.5 (Dz. U. nr 24).

Чытачу будзе карысна азнаёміцца з „роздумамі” аўтара нарысу, якія закранаюць пытаньні, актуальныя ня толькі для Беларусаў у Польскай Народнай Рэспубліцы, але і ў Савецкім Саюзе.

Нарыс „Праваслаўная Царква ў Беластоцкім Краі і беларуская мова ў ёй” быў зьмешчаны ў выдаванай у Нью-Ёрку Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем газэце „Беларус”, у нумарох 314-318 (сьнежань 1983 — красавік 1984).

Беларуская мова ў жыцьці праваслаўнае царквы ў Беластоцкім Краі павінна быць чымсьці так звычайным, як хлеб штодзённы. Калі думаць на здаровы розум. Тым больш, што няма перашкодаў у гэтым — ні фармальных, ні мэрытарычных (у сэньсе перакладаў Сьвятога Пісаньня).

На практыцы, аднак-жа, выглядае ўсё наадварот. Таму на месцы тут будзе пытаньне: ці грэх маліцца пабеларуску?

* *
*

Беларуская мова вернікаў у Беластоцкім Краі не заняла належнага ёй месца сярод іншых моваў, якімі карыстаюцца праваслаўныя сьвятары ў цяперашняй Польшчы. Не пачуеш слова беларускага ў пропаведзі, не прачытаеш яго ў рэлігійных публікацыях, нароўні з расейскаю моваю ці-бо польскаю, а нават украінскаю; слова нашае не дапушчана да навучаньня Закону Божага. Дзяцей нашых кроўных выхоўваюць ужо ў польскім духу.

Кажуць нам: ня мова важная, але вера.

Адказваем ім: калі так, дык чаму ня можа яна, наша родная, знайсьці свой прытулак у сьвятыні Божай?

* *
*

Палова праваслаўных у Польшчы гэта Беларусы. Скажам яшчэ больш: гэта яны ёсьць айчынаю праваслаўнае царквы тут і цяпер. Толькі ў нашым краявідзе купал залаты ня лічыцца дзіўным і чужым. Мы нясём на сваіх плячах асноўны цяжар матар’яльнага быту нашае Сьвятое і Апостальскае, каб да канца дагаварыць гаворанае.

Ганарымся гэтым!

Юдзяць з нас: вы-ж самі, Беларусы, ня хочаце таго, каб слова вашае ўзыйшло на амбону і сталася

словам навукі Божае!

Пытаемся ў іх: адкуль вам ведама пра тое?

* *
*

Мы ня жывём распыленымі, як тыя няшчасныя Жыды або Армяне ці іншыя, цяжка дасьведчаныя лёсам народы, якім трэба спачуваць, але таксама і зайздросьціць справядліва іхнай вытрымцы. У нас свая айчына ў гэтай агульнадзяржаўнай айчыне, якою лічым Польскую Народную Рэспубліку. Маем мы сардэчна сваё, Беластоцкі Край; зямлю, веру, мову. Страцім зямлю — страцім веру і мову, страцім веру — страцім зямлю ды ўсю рэшту, а калі мову страцім — застанёмся ня толькі беднымі, але і перастанем існаваць.

Пыталі на Сьвятой Гары Грабарка маладзёны: чаму царква ўсё яшчэ ня польскай культуры?

Замест адказу слухалі яны хітрасьць, якая бярэцца са страху.

Чаславў Мілаш, польскі паэт і лаўрэат прэміі Нобля, растлумачыў-бы ім так: праваслаўная царква ёсьць чужая польскай культуры, бо культура прыйшла да Палякаў не з Царгораду, але з Рыму. Ватыканская яна!

* *
*

Мы палітыкаю займацца ня будзем — гавораць нам. І некаторыя з нас наіўна вераць у тое, што гэткае ёсьць магчымае, жыць па-за палітыкай. Яны просьценька не разумеюць таго, што палітыкаю ёсьць-жа ўсё, што робіць чалавек ці грамадзтва. Не займацца палітыкаю гэта таксама палітыка. Палітыка ёсьць такое стварэньне, ад якога яшчэ ніхто і нікуды ня ўцёк! Можна толькі займацца ёю моцна або слаба. Калі слаба — рэшту палітыкі за цябе будзе рабіць хто іншы, прытым і ад твайго імя, пра

што неабавязкова мусіш ведаць ад яго менавіта.

Не займаюцца палітыкаю толькі адны нябожчыкі.

Палітычнасьць праваслаўнае царквы ў нас. Ёю, гэтай палітычнасьцю, усхваленьнем улады ПНР пранізана ўсё, асабліва ў пытаньнях ейных ерархаў, епіскапаў і вышэй. І гэта не загана, не. Мы-ж сказалі сабе, што і ад справа ў зямнога сьвету нельга адбегчыся, бо яны дагоняць цябе, ці ты жадаеш таго а ці не. Ад рэаліяў, зрэшты, і ня трэба ўцякаць. Трэба жыць усім тым, чым жывуць людзі, усімі іхнымі бедамі ды радасьцямі, няшчасьцямі ды шчасьцямі, плакаць і сьмяцца разам зь імі, кахаць ды ненавідзець (калі ёсьць за што!). І нямаш у тым нічога супярэчнага з гэтым, чаго вучыў чалавецтва Ісус, Сын Божы. Ён, Усёмагутны, быў сярод нас і з намі. І ёсьць Ён сярод нас і з намі!

І калі хто з нас ненавідзіць, але разумее і прабачае, дык дзякуючы Яму. І калі хто з нас плача, але і радасьці спадзяецца, дык-жа дзякуючы Яму. І нават калі я ці-бо ты шэптам горкім скажаш: Божа, чым-жа гэта народ мой зграшыў, што слова сваё выганяе са сьвятыні Твае, як усяроўна нечысьць паганскую? У чым яно, слова, вінаватае? А жа-ж слова найпершым было, праўды Твае апавяшчаючы!

І пачуеш ты Яго: хто табе, о бедны ты, сказаў, што Бог не разумее твае мовы і не шануе яе?

Усё злое ад людзей-жа, як і ўсё добрае да іх можа быць.

* *
*

Палітыкай, як ідалам, нас палохаюць. І ня будзем пра яе больш гаварыць — у кожнага свае прычыны на тое, каб баяцца яе пасвойму.

Аднак-жа: калі няма беларускай мовы ў царкве, значыць гэта, што і мы самі, як і наша культура, спадчына нашых бацькоў і дзядоў, павінны быць

зьніштожаны, затаптаныя ў сваёй духовай існасьці, бы тыя гадзюкі пякельныя! І дзяцей вашых трэба вучыць папольску і спавядаць папольску, і выгадаваць іх на Палякаў, зусім ня думаючы пра тое, што Паляку заўжды мілейшы касьцёл за царкву. Справа тут ня ў дурным нацыяналізьме, у дзікунскай нянавісьці да ўсяго польскага, о не! Якраз наадварот — у абароне нашай перад беларусаедамі.

Мы — пакаленьне тых беларускіх бацькоў, якія тлумна пайшлі за рэвалюцыяй бедных ды пагарджаных і крычалі на вуліцах веку: усе ўсім браты! Пакаленьне мы тых бацькоў, якім думалася па даверлівасьці, што найважнае заставацца чалавекам, будзь ты сабе хрысьціянін, жыд ці атэіст; твая справа, гаварылі, сумленьня справа. Бацькоў урэшце, якім здавалася няважным упірацца пры сваёй беларускасьці, і нават захацелася нам вельмі стаць родзічамі яшчэ адных Палякаў, праваслаўных Палякаў (мы не памяталі, што пра гэта марыў Пілсудзкі, прасьледуй дзядоў цяперашніх падбеластоцкіх унукаў).

І што бачым па дзецях нашых?

Не навучыўшы іх шанаваць слова бацькоўскае і спадчыну родную, навучылі мы іх акурат пагарды і нянавісьці да чалавека беларускага, часамі дкрытае, часьцей прыхаванай у глыбінях душы. Яны ў месцы свае працы наагул не прызнаюцца да таго, што праваслаўнымі ёсьць, і яны разам з каталіцкай большасьцю паслухмяна ходзяць на касьцельныя набажэнствы. І жэняцца, і замуж выходзяць ужо там (хоць за нашы, бацькі-маткі, грошы, ня ў прытык кажучы тое).

Не хачу, каб гэта зразумета было як і процікаталіцкае штосьці. Будзь ты сабе каталік, чалавеча. Толькі зьлітуйся ты над сваёй новай вераю, не кажы яхідна ўсякія подласьці на праваслаўных, а затым і на Беларусаў, якіх і безь цябе б’юць, ды штурхаюць, хто хоча і як хоча! Бо падатлівыя, аж дзіва дзіўнае

бярэ!

* *
*

Каталіцкі Рым дапусціўся мноства памылак у сваіх зносінах з масамі вернікаў. Адною зь вялікіх ягоных памылак тых трэба лічыць нешанаваньне народаў, што выяўлялася ў прымусе слухаць багаслужбу ды маліцца па латыні. Бунт супраць таго меў месца даўно, пад канец сярэдніх вякоў, калі ўзьнік рух пратэсту, пратэстантаў, што зьвязана са зьяўленьнем Лютэра ў Нямеччыне ці Гуса ў Чэхіі. Польскае каталіцтва вырataваў таленавіты ксёндз Пётр Скарга, стаючыся польскім патрыётам ды залатавусным польскае рэлігійнае вымовы, выслоўя.

Каталіцкая вера па беларускіх-жа землях вельмі нядаўная, першыя касьцёлы, напрыклад, у Беластоцкім Краі пачалі будаваць усяго ў шаснаццатым стагодзьдзі і толькі пры дварох вяльможаў. Паны пераходзілі ў так званую польскую веру, бо яна гарантавала ім кар’еру! Праваслаўны пан ня мог заняць ніякае пасады. Чартарыйскія, Касьцюшкі, Радзівілы, Сапегі, Глябовічы, Кішкі зрабіліся важнымі тады, калі пакінулі праваслаўе, перахрысьціліся. Такая гістарычная праўда. Мужыкамі ніхто ня цікавіўся, мужык мог застацца сабе і праваслаўным (уся Беларусь была праваслаўнаю!)

Таму ясна, чаму нашы людзі называлі каталікоў як тых, хто ёсьць „панскай веры”.

Пан — каталік, мужык — праваслаўны. Ніхто з нашых бацькоў ці дзядоў не памятае пана праваслаўнага (хіба што быў ім, прысланы пры царох нейкі Расеец, афіцэр і гуляка зазвычай).

Каталікі пачаліся ў нашых вёсках тады, калі царскія ўлады ўзяліся гвалтам ліквідаваць вуніяцтва, у палове дзевятнаццатага стагодзьдзя. Паніка ў той час была такая, як у першую вайну падчас “бежанства”, калі ўцякалі адны праваслаўныя (каталікі

не), баючыся таго, што Немцы будуць забіваць "рускіх" мужчынаў ды ганьбіць „рускіх" жанчынаў і дзяўчат. А сто гадоў назад, у часе забароны вуніі, некаторыя ксяндзы пусьцілі, напрыклад, чутку, што той, хто зробіцца каталіком, ня будзе служыць у салдатах ... Так дайшло да акаталічаньня Сакольскага павету, і Беластоцкага таксама нямала (касьцёл у Ялоўцы быў вуніяцкай царквою, як і касьцёл у Шудзялаве каля Саколкі, ці ў Кузьніцы, Янаве, Карыціна, Сухаволі, Дуброве і г. д.).

А яшчэ трэба памятаць і аб тым, што мужыку надта імпанавала тое, што ён стаўся чалавекам „польскай веры" і кленчыць перад алтаром разам з панам з блізкага маёнтку, і зь яго паняю, і з панятамі іхнымі, такімі чысьценькімі паненкамі ды панічамі. Гэта псыхалягічная справа, і расейская акупацыя ні трохі ня зьменшыла яе. Польскі пісьменьнік Мэльхіяр Ванькові́ч, які родам з-пад Мінску, напісаў у сваіх успамінах, як адзін мужык адказаў на пытаньне расейскага ўрадніка пра „вероисповедание". „Гаспадзін, Німа мне чым хваліцца — мужыцкай я веры!".

Каталіцкія біскупы не палічыліся з моваю нашых людзей, у касьцёлах маліліся і надалей моляцца адно папольску, робячы цяпер з таго і палітычную справу: каб як найбольш было Палякаў пад „усходняй сьцяною" (г. зн. пад савецкай граніцаю). Папанску моляцца яны.

І як быццам у канкурэнцыю польскім асымілятарам-ксяндзом, праваслаўныя сьвятары трымаюцца расейскае мовы, а ў гарадох думаюць, што праваслаўе вельмі ўзмоцніцца, калі зробіцца яно польскім (Польшчу хочуць аправаславіць?). Прабачце, ці грэх ці ўжо два за тое!

* *
*

Так дайшло да таго, што хто католік, той ёсьць

адразу Паляк. А той, хто праваслаўны, лічыцца так званым рускім, не расейскім (а тут-жа не Расея, тут Беларусь у мове ды звычаях, таму правільна завуць іх Беларусамі). Такім чынам масу беларускіх католікаў усьвядомлена на Палякаў, і яны хочуць імі быць, бо ў гэтым штосьці лепшае, панскае. Праваслаўныя традыцыйна чуюцца горшымі перад католікамі. Яны масава пераходзяць у гэтую новую веру, абы была аказія — пры кавалеры-католіку ці нарачонай-каталічцы. Каму-ж гэта ня міла стацца панам ?! Ну, хоць-бы падпанкам …

Зразумеўшы гэта, мы зразумеем той, здавалася-б, абсурд у нашай гісторыі ды культуры. Менавіта тое, што Беларусь вывелі ў Эўропу і шырокі сьвет якраз не праваслаўныя, бо імі былі цёмныя мужыкі паншчынныя, якіх калісьці перарабілі былі ў вуніятаў. Культураю мог займацца адно багаты чалавек, пан, а ён быў, вядома, католікам. Зь беларускіх паноў, тых надта рэдкіх, якія не паддаліся польскаму націску ці-бо расейскаму, былі Францішак Скарына і Мікола Гусоўскі, творцы Рэнэсансу ў беларускім староньні; Ян Баршчэўскі і Ян Чачот, якія адрадзілі нашае слова пасьля ўпаду палянізатарскае Рэчыпаспалітай Першай; Вінцук Дунін-Марцінкевіч і Кастусь Каліноўскі, бацькі нашай новай літаратуры і палітыкі, незалежнай ад Варшавы ці Пецярбургу; Франьцішак Багушэвіч і Адам Гурыновіч, стваральнікі беларускага нацыянальнага патрыятызму і ідэі незалежнасьці Беларусі, як асобнае рэспублікі; Іван Луцэвіч (іначай: славуты Янка Купала), ад якіх і пачаўся наш цяперашні гонар Беларусаў на парозе дваццаць першага веку, людзі геніяльныя! Першым праваслаўным-жа творцам беларускай культуры стаўся Кастусь Міцкевіч (Якуб Колас), дзяды якога настолькі зьбяднелі, што парабіліся мужыкамі, значыць, і праваслаўнымі.

(Між іншага, у рамане Алега Лойкі "Янка Купала", расейскае выданьне, Масква, выд. "Молодая

гвардия”, 1982, б. 22, сказана, што дзед Якуба Коласа, Казімер, быў вуніятам. — Рэд. “Б-са”.)

З часам, калі пачаўся капіталістычны рух у Расейскай Імпэрыі, і бедныя маглі стацца багатымі, хоць ня кожны, у нашу беларускую культуру ўсё часьцей прыходзілі людзі зь цёмных нізінаў. Разам зь перамогаю сацыялістычнага ладу ў Расеі, потым і ў Польшчы, гэты прыход у сваё ўсякіх талентаў адбываўся без аніякіх перашкодаў.

Заўважце аднак, што дзіўнае здарылася ўжо на нашых вачах! Разам са зьнікненьнем паноў, шляхты, перасталі прыходзіць у нашу культуру людзі каталіцкія. Дочкі і сыны каталіцкіх мужыкоў зь вёсак ненавідзяць сваю мову і культуру беларускую, пруцца ў “панскую”, у польскую-ж, аддаючы ёй свой прыроджаны талент і здольнасьці. Застаюцца пакуль што Беларусамі толькі адны праваслаўныя, але і тыя стараюцца быць панамі і ўжо Палякамі.

Рэвалюцыя адбылася, няволя мужыкоў і работнікаў зьнішчана, цяпер кожны жыве наагул заможна, але і кожны хоча быць гэтым як-бы шляхціцам, гэтым лепшым, ганьбуючы народнай песьняй і словам. Гэта значыць, што спачатку нашы людзі топчуць сваю мову і культуру, каб зараз-жа затаптаць таксама і праваслаўе, як знак іхнага мужыцкага паходжаньня?

Усе стануць панамі, усе — католікамі, і беларускі народ прападзе толькі таму, што калісьці Рым ня прызнаў яго за народ? а праваслаўе за хрысьціянскую веру??!

Наш лёс нацыянальны ў руках Рыму, а не ў руках народнае ўлады, улады рабочых і сялян?

Паны помсьцяць нам са свае фэўдальнае магілы?

Да, скажам, стратэгічнае ролі беларускай мовы ў далейшых лёсах праваслаўнае царквы тут і цяпер мы яшчэ вернемся. Відаць, трэба так, калі нават многія вясковыя сьвятары, не гаворачы ўжо пра

епіскапаў, прызнаюць яе ў прыватным жыцьці, а ў службовым — польскую мову ды сьветапогляд нацыянальны Палякаў. Яны ўжо Палякі! А іхныя дзеці нават не разумеюць, сям-там яшчэ „рускія” (расейскія) пропаведзі (зрэшты, часта-густа яны перахрышчваюцца ў касьцёлах, не прымяраючы, як колішнія вуніяцкія парохі-бацюшкі). Даруйма прыклады; у кожнага свае яны, і справа зусім ня ў тым, што мы маем жаль да тых перахрыстаў.

Не, няма ані жалю як такога, ані пачуцьця крыўды. Зноў-жа кажам: іхная справа, справа сумленьня кожнага, калі ня хочам прычакаць дзікага рэлігійнага фанатызму.

Прыклад дзяцей „бацюшкаў” (бацечкаў, пабеларуску), якія робяцца каталікамі, падаем дзеля ілюстрацыі ўсё той-жа нашай тэзы: выхаваньне толькі ў польскай культуры, без дадатковага беларускага выхаваньня, аўтаматычна выклікае псыхічную адчужанасьць ад царквы, яе “mało zrozumiałej młodemu Polakowi ruskości”.

Мы-ж сказалі сабе, што пэрспэктыва праваслаўнае царквы ў Польшчы лімітаваная абсягам беларускае ды ўкраінскае нацыянальных меншасьцяў. Толькі невук можа думаць, што ў праваслаўя ёсьць будучыня і ў польскай сьвядомасьці. Яе ў ёй ніколі ня было, няма і цяпер, і ня будзе! Нехта зь недавучаных укажа нам на пратэстанцкія касьцёлы, якія ўтрымаліся ды сяк-так існуюць на Сьлёнску і недзе ў мазурскіх вакольлях. Дык, для яснасьці, па-першае, гэта на абшарах былое Нямеччыны, у васноўным пратэстанцкае, а па-другое, пратэстантызм быў некалі, у часы Рэнэсансу, значнай рэлігіяй сярод Палякаў ды пакінуў трывалы сьлед у польскай гісторыі і культуры, чаго аніяк нельга сказаць пра праваслаўную царкву, заўсёды сымбаль узьненавіджанай Расеі. Царква і ў цяперашняй сытуацыі ў польскай краіне мае паганую апінію “jako tej, która basuje władzy i jako

ruska wtyczka bezwarunkowo popiera ją”, бо “prawosławni, tak zawsze”. Праваслаўным быць — гэта быць чужым польскаму характару, які сфармаваўся і вырас у цені Ватыкану.

Дарэчы тут паслужыцца простым рахункам: у кожнага з нас ён свой з блізкага асяродзьдзя, а менавіта: колькі католікаў мы ведаем такіх, якія перайшлі на праваслаўе, а колькі мы ведаем такіх праваслаўных, якія сталіся католікамі, га?

І пытаньне: чаму гэта толькі нашым людзям кожная вера добрая ды вартая яе прызнаньня за сваю? Наш інтэрнацыяналізм настолькі інфантыльны, дзіцячы, што мы, Беларусы, зрабіліся гуртавымі фабрыкантамі нэафітаў, пярэваратаў, найгоршага гатунку людзінаў-фанатыкаў, рэнэгатаў.

* *
*

Нас, Беларусаў, нацыянальны лёс гэта лёс бедных і слабых. Мы ад пачаткаў сваіх усё шукаем паратунку ды апекі ў кагосьці (ня ў прыклад ставячы, бы тыя Палестынцы). Ратуючыся ад мангольскіх наезьнікаў у XIII стагодзьдзі, мы кінуліся ў абдымкі літоўскім кунгасам і далі ім Вялікае Княства Літоўскае. Калі-ж створаная Іванам Грозным страшная Маскоўска-Руская дзяржава ўзялася рабаваць ды паліць нашы вёскі і гарады, выганяючы ў свой азіяцкі палон цэлыя ваколіцы Беларусі, мы пачалі шукаць ратунку сабе ў набліжэньні да Польшчы, аб’яднаўшыся зь ёю ў вадну дзяржаву, Рэчпаспалітую Абодвух Народаў ад 1569 году, што скончылася палянізацыяй эліты беларускага народу, усіх тых Чартарыйскіх, Касьцюшкаў, Радзівілаў, Сапегаў, Кішкаў, Сангушкаў, Глябовічаў, Астрогскіх і г.д., і выгнаньнем нашае мовы з афіцыйнага жыцьця, у 1696 годзе, а якую яшчэ Зыгмант Стары „любіцельна мілаваў”. Каб не падзел даўняй Польшчы, які пачаўся ў 1772 годзе, мы, як Беларусы,

цяпер ужо былі-б адным усяго ўспамінам гісторыкам, уся роўна што зьнямеччаныя Прусы, племя тое блізкае сёньняшнім Літоўцам. Значыць, пашукалі збаўленьня мы ў Расеі, якой дзьвесьце гадоў назад так баяліся за ейную дзікасьць, перанятую ад крыважэрных Манголаў. У наш-жа век ды час Беларусь адыграла сумную ролю смачнага кавалка як для Расеі, так і для Польшчы.

У Варшаве 1920 году, калі Пілсудзкі лез на ўсход, было сказана нядвузначна: “Białoruś może być tylko albo polska albo rosyjska!”

Мы, Беларусы, ад 1918 году, году апавяшчэньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, спрабавалі быць нарэшце сабою — ні польскімі ні расейскімі, але якраз сабою, Беларусамі, гаспадарамі свае долі, без падтакваньня камукольвек. І нам тое патроху ўдаецца, нягледзячы на ўсе нягоды ды праклёны, што шчодра сыплюцца на нашы пакутлівыя галовы.

Мы мусім быць сабою, бо мы хочам жыць, і то жыць на свой рахунак, не на чужы рахунак ды ласку, але, менавіта на свой, сваім хочам жыць!

Ня думаем, каб і гэта было злачынствам.

Ня будзем тым няшчасным кавалкам Афрыкі ў Эўропе. Да Нэграў місіянэры-ксяндзы прамаўляюць паангельску, папартугальску, пафранцуску, пагішпанску і паафрыканэрску, гэта значыць на мовах калянізатараў, тых мовах, якіх навучана іх бізуном, але і жыцьцёвай патрэбай (любяць гэтыя слоўцы, т.зв. жыцьцёвую патрэбу, нашы мужыкі з тытуламі інжынераў ды дактароў, бо гэтак лягчэй ім вырачыся сваіх бацькоў, каб самым хоць на паноў выйсьці ўрэшце рэшт!). Да нас-жа, Беларусаў з крыві і косьці, ксяндзы і бацечкі бессаромна прамаўляюць папольску і парасейску, — як няцяжка здагадацца — таксама на мовах калянізатараў, але нашае зямлі. А дзе-ж прапала навука Ісуса Хрыста, які сказаў сваім вучням: ідзеце ў землі розныя ды навучайце на

мовах тамашніх, бо-ж усе языкі Госпаду мілымі ёсьць!

* *
*

Няўжо яшчэ няяснае тое, што сыном і ўнукам апалячаных Беларусаў, так званым праваслаўным Палякам раней ці пазьней усяроўна бліжэй зробіцца да касьцёла, чымсьці да царквы (няхай сабе ўжо і польскай!). Ім застанецца адна дарога — дорога ў касьцёл! Бо ў касьцёле яны вылечаць усенькія свае камплексы, слабасьці духа, пачуюцца панамі на сто працэнтаў, чыстакроўнымі; ксёндз ачысьціць іх ад моху мужыцтва, горшасьці, людзей другое катэгорыі, парыяў; ня трэба жыць у вечным страху перад тым, што дырэктар ці начальнік дачуецца пра тваё праваслаўніцтва і зачыніць сьцежку ў кар'еру. А каб хто не падумаў, што, напрыклад, ува мне застаўся аднак запах праваслаўя, я пачну кідаць каменьнямі ў царкоўныя дзьверы, пляваць на "рускі" крыж, дачку Таню перахрышчу ў Тэрэсу, сына Сяргея ў Сыльвэка, жонку Ніну ў Яніну, а сам са Слаўка перараблюся ў Чэська. І буду плясьці ўсякую хярню пра бацечкаў ды іхных жонак, пра эратычныя прыгоды з "кацапкамі", у якіх нібы шырэйшыя зады і... тое, ну, упоперак, і ўсе мае калегі будуць іржаць ад уцехі, ад таго, які я добры і заядлы каталік. Ксёндз не пахваліць мяне за тое, але ксёндз ня дурань, і таму ня будзе таксама лаяць мяне за ўсю гэту антыправаслаўную схізафрэнію. А Тэрэса і Сыльвэк вырастуць на салідных ідыётаў антымаскоўскіх, і не дадуць спакойна прайсьці вуліцу сваім нядаўным адзінавернікам, абзываючы іх... агентамі НКВД! І хрэн ім у вочы!

І зноў, як той Фэнікс з попелу, паўстае беларуская мова, якая ўсё адрастае, аб'яднаная быццам авечкамі ды ўсякім быдлам. Бо ў мовы гэтай сваё тут і глыбокае карэньне, і яна ўсё будзе адрастаць, бо

сокі ўсё кружаць. Можна жывіцца чужым, — як тымі амэрыканскімі пачкамі — польскім ці расейскім (але бульбы табе з тае Амэрыкі не пачнуць слаць, сваю аднак мусіш мець). І мову сваю, непазычаную — таксама-ж, ці-ж ня так яно? Як тую бульбу!

У тым і цэлая стратэгічнасьць беларускае мовы ў нашай праваслаўнай царкве ў Беластоцкім Краі.

Праваслаўю, па ягонай слабасьці ў нашай дзяржаве, пагражае сваеасаблівае зазнайства, падобнае да зазнайства нейкага майстра, які ведае таямніцу, скажам, рамяства. Ён і ніхто болей. А ёсьць гэта супярэчнасьцю істоты хрысьціянства, бо ўся сутнасьць яго ў адкрытасьці да іншых, у любові, у тым, каб зразумець ды ўшанаваць цэлага чалавека, такім, якім ён зьяўляецца, з усенькімі ягонымі патрэбамі ды жалямі, турботамі ды ўдачамі, а лік тут без канца. Таму грэх вялікі лічыць, што толькі праваслаўе запраўднае веравызнаньне — у рэпліку каталіцкаму, а ўсе іншыя памыляюцца, і яшчэ нашто нам такія праваслаўныя, якія крывяцца на гэту нашу веру за ейную касмапалітычнасьць, за тое, што адганяе ад сябе і кпіць зь беларускае мовы, калі трымацца тэмы нашага выступленьня. І так далей. Рэлігія-ж, адумаймася, ня існуе ўвогуле, бо-ж яна, ну так, для канкрэтных людзей.

І як абломак пераўтвараецца ў сьмешна агрэсіўнага асобеня, якога ніхто ўсур'ёз не баіцца, так і праваслаўныя тэалёгі нашы займаюцца расьсяваньнем небясьпечнае нам ілюзіі, менавіта наконт пэрспэктыўнасьці праваслаўю ў Польшчы, ад якой можа і здавацца, што ўсякая там беларуская ці-бо ўкраінская мова адно кампрамітуе гэту рэлігію як няпольскую (у вачох Палякаў, вядома). Яны, тыя тэалёгі, апіраюцца на гістарычную праўду аб тым, што першымі хрысьціянамі-Палякамі былі якраз не каталікі, але праваслаўныя, і што больш-менш на сто гадоў раней ад каталіцтва Польшча будавала ў сябе цэрквы, ад Карпатаў па Гнезна і Познань. Так яно

сапраўды і было, у чым не пярэчаць нават фанатычныя польскія навукоўцы; каталіцкая вера прыйшла ў Польскае Каралеўства ад Чэхаў і доўга змагалася тут з праваслаўнаю. І перамагла, бо не магла не перамагчы, калі за ёю стаяла ўся ісіла і моц тагачаснае польскае дзяржавы. Такім чынам, славутыя апосталы славянскія Кірыл і Мяфодзі пакінулі свой археалягічны сьлед у селішчах над Віслаю і Вартай. Але гэта зусім ня значыць, што Палякам раптам, от так сабе, для сумленьня спакою, захочацца цяпер вярнуцца ў веру сваіх даўных прашчураў, і замест ксяндзу біць паклоны, пачнуць маліцца перад бацечкамі нашымі. О не!

Але сьвядомасьць пяршынства праваслаўя на польскіх землях знакаміта паляпшае настроі ў тых праваслаўных Палякаў, пра якіх мы тут ужо сказалі сваё слова. Яны, бачыце, перастаюць, дзякуючы таму, чуцца горшымі, а нават робяцца яны як-бы лепшымі, і гэта — капітальны спосаб на тое, каб тыя два працэнты Беларусаў з Украінцамі ў цэлым народзе ПНР пераўтварыць у Палякаў. А далей могуць сабе яны праз пару пакаленьняў пабыць тымі праваслаўнымі, бо і так яны нікуды не падзенуцца, бы тыя, некалі праваслаўныя, Сапегі, дзеля прыкладу тут, якія перш пісаць і гаварыць папольску заеліся, а потым па касьцёлах пажаніліся ды паўміралі.

Безь беларускай мовы, мовы тубыльцаў, лёс праваслаўнае царквы ў Беластоцкім Краі перастане кагокольвек неспакоіць у пакаленьні нашых праўнукаў, якія праўда, яшчэ народзяцца, але іхнымі бацькамі будуць нашы, апалячаныя да шпіку касьцей, унукі, да якіх мы ўжо не дапускаем і паху “рускага”! Унукі гэтыя на дзядоў сваіх вясковых глядзяць як на чужаземцаў якіх або Нэграў чорных, што балбочуць незразумелыя ды экзатычныя, бы зь якой Афрыкі, словы ад бацькоў сваіх у Беластоку нячуваныя. Або і забароненыя… matką-ojcem!

* *
*

Кажуць таксама: беларуская мова не дарасла да таго, каб перакласьці ў яе Сьвятое Пісаньне ды ўсё іншае, патрэбнае духоўным асобам дзеля багаслужбы. А гэта вялікая няпраўда! Яшчэ ў 1722 годзе друкарня Супраскага манастыра апублікавала адпаведныя беларускія пераклады, праўда, пастарабеларуску. А ёсьць-жа Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква на Чужыне, беларускія пераклады ўсіх патрэбных дзеля багаслужбы кніжак, запісана традыцыя нашага маленьня. Трэба толькі хацець вярнуцца да свайго, забясьпечыць такім чынам будучыню праваслаўю тут і каб не дапусьціць да тае смутнае сытуацыі, калі яно зробіцца памалу верай варожай нашаму нацыянальнаму быту і таму зусім без значэньня, бо польскай.

А мы ўжо гаварылі, што — стаўшыся Палякам, трэба-ж пераняць і ўсе тыя польскія амбіцыі. А амбіцыі польскія найлепей рэалізуе і будзе рэалізваць каталіцкі касьцёл, ксёндз, а не бацечка зь вечным кляймом “ruskości” і “niepolskiego pochodzenia chociaż Polakiem on już jest”. Праваслаўны Паляк раней ці пазьней будзе яшчэ большым Палякам, і ён адчуе, што ягоны польскі дух ня мае поўнай рэалізацыі ў царкве, кепска ў ёй чуецца, а лепш у касьцёле. Ідэя аб’яднаньня каталіцтва з праваслаўем зьліквідуе і гэтую праблему: “Po co ten podział na takich i takich — wszyscy jesteśmy chrześcianami-Polakami”. Канец, кропка. Ня будзе пра што далей гаварыць.

Вернемся на хвілю ў рэаліі перадваеннай Польшчы, якая, як ведаем, ня была ні рэвалюцыйнай, ні тым болей камуністычнай. Чаго дабіваліся тады пілсудчыкі і іншыя будаўнікі Польшчы, калі думалі яны пра нас, Беларусаў? Хацелі яны, каб праваслаўная царква зрабілася польскай, каб маліліся ў ёй адно папольску, і так далей. Трэба быць надта наіўным, каб думаць, што Пілсудзкаму ці

Рыдз-Сьмігламу залежала гэтым самым на сіле ды моцы Сьвятой і Апостальскай. Якраз наадварот — на яе аслабленьні тым самым і, з дапамогаю польскае культуры (ватыканскай-жа!), поўным зьнішчэньні.

Польскія тадышнія ўлады найбольш ламалі сабе галовы над вуніяцтвам у Галіцыі, бо сталася яно абаронцам украінскага народу там, і таму ніяк не ўдавалася польскаму нацыяналізму хоць-бы трохі паслабіць тую веру! Сёньня-ж бачым падобнае з каталіцтвам у Польшчы, якое ня мела-б нават дзясятай долі свае сілы, калі-б ня вырасла яно на вялікага абаронцу нацыянальных інтарэсаў польскага народу. Гэта ў нічым не парэчыць хрысьціянскай істоце. Апосталы Кірыла і Мяфодзі, самі будучы Грэкамі, наўчыліся-ж мовы славянскай і навучалі людзей славянскіх, чаго не зрабілі тадышнія лаціньнікі, якія вельмі позна пакаяліся ў тым ды прызналі сваю памылку, свой грэх. (У часы Кірылы і Мяфодзія Славяне яшчэ не падзяляліся на Сэрбаў, Расейцаў, Рускіх, Палякаў, і т. д. Мелі адну мову, пра што гавару для яснасьці, каб адразу не дапусьціць да непаразуменьняў ды дурных дыскусіяў, у рэзультаце невуцтва).

Ня кожнаму будзе прыемна чытаць гэта, але, урэшце, трэба-ж сказаць трохі тае праўды ў вочы!

* *
*

І на заканчэньне — прачытаўшы ўсё тое, тут напісанае, робіцца неяк дзіка на душы. Думаеш сабе: А Божа-ж, ты мой Божа! У наш век, у нашу эпоху, трэба яшчэ дабівацца шанаваньня чалавека і ягонае мовы з боку не якогасьці паўцёмнага бюракрата, але нашых, кроўных нам, сьвятароў!? Дзе-ж гэта мы жывём, і якім правам мы маем адвагу і бясстыднасьць хваліцца, што людзі мы культурныя, цывілізаваныя?! Мы-ж усё яшчэ ў сярэдніх вякох гразьнем, хоць у нашых кватэрах стаяць тэлевізары і лядоўнікі,

а пад вокнамі самаходы добрых марак фабрычных, а і накормленыя мы, і даўно ня ведаем голаду ды холаду нашых дзядоў, якія хадзілі на паншчыну ў маёнткі, і жэнімся мы зь дзяўчатамі, якіх ня трэба перад шлюбам весьці нанач у пасьцель разбэшчанаму пану, паводля права першаночы (prima noctis).

Мы цяперашнія людзі, але толькі з выгляду, мы лічым сябе Эўропаю, але гэта далёка няпраўда.

У нас фэўдальная псыхіка.

Мы яшчэ ня ведаем, што такое чалавек, бо мы ўсё яшчэ хочам панам быць, панства нам сьніцца. Хочам быць лепшымі, але каб ня ўсе — як можна быць лепшым, калі няма горшых? Ролю тых горшых мы пакідаем бацьком і дзядом нашым, якімі, папраўдзе, пагарджаем за іхную мову, няпанскую перад усім!

Мы і царкву хочам зрабіць панскаю, але не таму, каб ратаваць яе. Вельмі нам прыкра, што мы яшчэ праваслаўнымі і нам не хапае сьвінства, каб плюнуць на „рускі" крыж і пайсьці да паноў. Але мы тое зробім памалу, далікатней, — стаўшы напачатак Палякамі. А потым ужо ўсё адбудзецца беспраблемна...

Сказана тут нямала страшнага і вульгарнага. Але праўдзіва. Так многія з нас думаюць, менавіта так, хоць ня пішацца так, ня толькі таму, што цэнзура забараніла-б, але таксама і таму, што было-б, звычайна, брыдка нам гэтак публічна — як брыдка выйсьці голым на вуліцу, хоць усе добра ведаюць, то ёсьць у мужчыны, а што ў жонкі.

Ну, даволі гэтага псыхааналізу.

* *
*

Ня прызнае нас Беларусамі каталіцкі касьцёл, а нават і ненавідзіць за тое, што аднак хочам быць сабою! З гэтым мы ўжо, як быццам, пагадзіліся, бо каталіцтва, фактычна, прыйшло да нас, у нашу

існасьць, разам з чужынтвам, з Палякамі. Але-ж не прызнае Беларусаў і праваслаўная царква. Як ксяндзы, так і бацечкі нашы, — забыліся цалкам на запаветы апосталаў Славяншчыны, сьвятых Кірылу і Мяфодзія, каб ушаноўваць народы-“язьщы”. Адны заеліся рабіць нас менавіта Палякамі, другія — Расейцамі. Значыць: калі ты католік, дык абавязкова маліся Богу ў ролі Паляка, ну а праваслаўны — гэта Расеяц. Хутка век будзе ад часу як палітычны сьвет урэшце прыняў наша нацыянальнае існаваньне: рэлігійны-ж — заядла яшчэ не!!! Ватыкан дазваляе на беларускія малітвы толькі вуніятам (няцяжка здагадацца, чаму). Праваслаўныя мясцовыя мітраполіі — па царскай традыцыі — нагул ня хочуць бачыць беларускага народу. Вось адзін з абсурдаў цяперашняе эпохі!

Дзе-ж падзелася, так патрэбная нам, хрысьціянская міласэрнасьць ды спагада лёсу беларускага духу, усім, хто пакутуе ад прыліплай дамінацыі?! Палітыканства закралася ў касьцёлы і цэрквы, у гэтыя Дамы Божыя, ператвараючы іх у экспазытуры антыбеларускіх патэнцыяў (пад пакрывам нібы апалітычнасьці). Помач дзеля здушанай беларускай культуры лічыцца — лезьці ў палітыку ... А ці-ж ня большай тут той палітыкай — спрыяньне зьнішчажэньню беларушчыны? Глядзець во халодным вокам на тое, як гіне, памірае(!) нацыя Беларусаў, пабарбарску шматаная нацыяналістычным чалавеканенавісьніцтвам! І каму Госпад Бог прабачыць тую бессардэчнасьць, абыякавасьць да таптанае гісторыяй ды злымі людзьмі іншароднымі малога і неўсямоцнага, як Палякі ці Расейцы, беларускага народу ?!

*Кастрычнік 1981 году.*

**ВЫДАНЬНІ ГАЗЭТЫ „БЕЛАРУС”**

Максім Гарэцкі. Выбраныя творы. Том трэйці. Апавяданьні і аповесьць “Дзьве душы”. 1975.

Міхал Кукабака (паштоўка). 1980.

Янка Запруднік. Спадчына бацькоў: “агледзіны”. Да 100-годзьдзя ад нараджэньня Я. Купалы й Я. Коласа. 1982.

„Беларус”. Каляндар палітьгчна-культурных угодкаў на 1983 год.

„Беларус”. Каляндар палітычна-культурных угодкаў на 1983 год.

Ант. Адамовіч. “Як дух змаганьня Беларусі”. (Да 100-х угодкаў нараджэньня Івана Луцкевіча). 1983.

Станіслаў Станкевіч. Янка Купала. На 100-я ўгодкі ад нараджэньня (у друку).

„Сказ пра Лысую Гару” (ананімны вершаваны твор зь Беларусі) (у ДРУКУ).

„Б Е Л А Р У С”
Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выходзіць штамесячна.
Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.

Адрыс:

Bielarus
P. O. Box 178
Jarmaica, N.Y. 11431 U.S.A.